## Новыя напоі



Сёлета спецыялістамі рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Мінск Крышталь" распрацавана 38 новых найменняў прадукцыі, сем з якіх заваявалі 14 медалёў, у асноўным залатых, на розных міжнародных конкурсах. На прадпрыемстве асвоена тэхналогія вытворчасці сярэбранай фільтрацыі, калі спірт фільтруецца праз актыўны вугаль, на паверхню якога нанесена плёнка серабра. Гэтая тэхналогія выкарыстоўваецца ў вырабе высакаякаснай гарэлкі "Белая Русь сярэбраная" і "Крышталь сярэбраны", а таксама гарэлкі "Афіцэр", што з'явілася ў продажы ў кастрычніку".

У 2004 годзе прадпрыемства працягне выпуск серыі вырабаў, настояных на каньяку, і да ўжо існуючых "Рябине на коньяке" і "Клюкве на коньяке" дадасць напоі "Вишня на коньяке" і "Черная смородина на коньяке". Апрача таго, будуць выпушчаны напоі з невысокім утрыманнем алкаголю (20 градусаў) "Вишня спелая" і "Смородинка", "настолькі мяккіх і гарманічных па смаку, што алкаголь у іх нават не будзе адчувацца", зазначыла галоўны тэхнолаг.

Завершыцца рэканструкцыя цэха па вытворчасці вінаградных він, пашырыцца іх калекцыя. Віно будзе вырабляцца з балгарскіх, малдаўскіх і італьянскіх вінаматэрыялаў.

Ужо ў пачатку наступнага года распачнецца вытворчасць новых пладовых він з выкарыстаннем натуральных сокаў, да прыкладу "Крышталь Аронія" з сокам чарнаплоднай рабіны, і высакаякасны спірт "Крышталь супер-люкс". З'явіцца таксама новы спектр вырабаў на аснове натуральных раслінных экстрактаў, атрыманых на унікальнай устаноўцы па вытворчасці канцэнтраваных харчовых дабавак, накшталт "Вермут Крышталь", "Сузор'е", "Цветы полевые".

**Лавінія АРЭШКА.**

ЗАМАНЧИВОЕ ПРЕДЛОЖЕНИЕ

# Хотите подзаработать в Санкт-Петербурге?

Уже более года действует соглашение по трудовой миграции, заключенное между Министерством труда и соцзащиты Беларуси и Департаментом по занятости Санкт-Петербурга. О том, каковы предварительные итоги этой деятельности и дальнейшие перспективы ее развития, в эксклюзивном интервью корреспонденту БелТА рассказал руководитель департамента федеральной государственной службы занятости населения по Санкт-Петербургу Министерства труда и социального развития Российской Федерации Дмитрий Чернейко. Ниже публикуем фрагметы его интервью.

— С момента подписания соглашения к нам обратились более 3 тыс. жителей Беларуси, желающих работать в Питере. Из них в проекте участвовали более 1,5 тысячи человек. Реально заняты на предоставленных рабочих местах около 1 тысячи белорусов. И их ежемесячная заработная плата составляет от 8 до 25 тысяч рублей. Ее уровень зависит от предприятия, уровня квалификации, напряженности труда.

**— А из тех средств, которые белорусы зарабатывают на питерских предприятиях, сколько денег уходит на оплату жилья, питания и прочих необходимых нужд?**

— Как правило, на оплату жилья уходит около 1 тысячи рублей (при проживании в одном помещении 4—5 человек). Кстати, невелики и транспортные расходы — жилье максимально приближено к месту работы. Что касается питания, то многие предприятия кормят своих работников бесплатно три раза в день. По подсчетам, в среднем на прожитье уходит максимум 3,5—4 тысячи рублей, реально же белорусы тратят еще меньше. Кроме того, чтобы исключить соблазны "толстого кошелька", предлагается банковская услуга по перечислению любой части заработка в Беларусь. Пользуется этим своеобразным шлагбаумом на пути ненужных трат каждый второй работник — реальные деньги в реальном исчислении переводятся семьям в Беларусь.

Отмечу, каждый работодатель представляет в службу занятости Санкт-Петербурга основные характеристики вакантного рабочего места, которые мы передаем в белорусскую службу занятости. Ведь человек, принимая решение о трудоустройстве в Питере, заранее должен знать требования питерских нанимателей, включая специальность, конкретный квалификационный разряд, минимальный размер оплаты, вероятность командировок и т.д.

**— В рамках межгосударственных соглашений граждане России и Беларуси имеют равные социально-трудовые права. Однако на практике возникает немало нюансов... Какие проблемы тормозят процесс официального трудоустройства?**

— Граждане Беларуси имеют право на свободный выбор работы в России, как и граждане России имеют право трудиться в Беларуси. Но, говоря откровенно, не все вопросы урегулированы. В частности, "за кадром" оказалось равенство наших граждан с точки зрения налогового законодательства — они не имеют с первого дня работы статуса налогового резидента страны пребывания. В результате 180 дней работающий в России белорус должен платить 30% налогов на доходы, после этого ему, конечно, возвращают 17% и он начинает платить как гражданин России. Но с 1 января эта "налоговая карусель" закручивается вновь. А это здорово бьет по карману работника из Беларуси, снижает его конкурентоспособность в России и дает импульс к выплате заработка черным налом.

Такая ситуация противоречит самому духу межгосударственного соглашения. Между тем она, как ни парадоксально, в точности соответствует букве налогового законодательства обеих стран. Очень хотелось бы, чтобы данный вопрос был решен в кратчайшие сроки.

Тормозом является и непозволительно низкая скорость обработки информации о потребностях в кадрах питерских работодателей. Необходимо так отладить технологическую цепочку, чтобы от подачи заявки до приезда белорусского работника проходило около двух недель, а не месяц-другой, как сейчас.

**— Каков спектр наиболее востребованных в Санкт-Петербурге профессий?**

— Особый спрос — на квалифицированных станочников, строителей. По этим вакансиям предлагается, как правило, очень высокая зарплата — от 15 тысяч рублей. Кстати, во время подготовки к празднованию 300-летия Петербурга штукатуры, плиточники, отделочники зарабатывали больше тысячи долларов в месяц. Причем это абсолютно легальная заработная плата. Колоссальный дефицит строительных специалистов в нашем городе был, есть и будет, поскольку объемы строительства, в том числе жилищного, возрастают. По итогам 10 месяцев нынешнего года введено 1,3 млн. квадратных метров жилья, ежегодно объемы строительства будут увеличиваться.

Некоторые предприятия Питера предлагают сейчас уникальные условия для белорусов. Работодатели готовы идти на солидные издержки, предоставляя им возможность освоить новую профессию, новое оборудование, новые технологии. А это — тот багаж, который после возвращения на родину, безусловно, пригодится работнику. Ведь цель проекта отнюдь не в том, чтобы белорусы остались в Питере навсегда — это их выбор. Большинство из них как раз вернется в Беларусь, повысив свою квалификацию, приобретя дополнительный опыт, подзаработав.

**— Почему же тогда столь привлекательные предложения игнорируют сами питерцы?**

— У нас официально зарегистрированных безработных — около 17 тысяч, а вакансий в Петербурге насчитывается порядка 70 тысяч Причем предлагаемая оплата по большинству из них превышает средний размер заработной платы по городу, который равняется 7 тысячам рублей.

В ближайшие годы прогнозируется острый дефицит в кадрах, особенно по рабочим специальностям. Поэтому естественно, что мы серьезно озабочены тем, как в рамках официальной государственной политики решать проблему обеспечения хозяйственного комплекса Санкт-Петербурга трудовыми ресурсами. И, естественно, мы заинтересованы принять тех, кто надежнее, кто действительно умеет и хочет работать.

Совершенно очевидно, что для нас белорусы на порядок более предпочтительнее, чем граждане любых других государств. Почему? Во-первых, не нужны никакие визы и оформление дополнительных документов (кроме регистрации). Во-вторых, практически не существует социально-культурных различий — удивительная близость менталитета. В-третьих, это действительно лучший выход для российских предприятий, испытывающих кадровый голод.

ОФИЦИАЛЬНО

## Правительство Беларуси утвердило перечень товаров, запрещенных к торговле на рынках

*Соответствующее решение содержится в постановлении Совета министров №1623*

Документом установлено, что на рынках республики запрещена продажа алкогольных и табачных изделий. Этот запрет не распространяется на магазины и торговые объекты общественного питания, принадлежащие организациям Белорусского республиканского союза потребительских обществ, расположенных на территории рынков.

Как пояснили БелТА в Министерстве торговли, эта мера направлена на недопущение теневого оборота данных товаров.

В перечень товаров, запрещенных к продаже на рынке, правительством включены также спирт этиловый, консервированные продукты домашнего приготовления, кулинарные изделия из мяса и рыбы, кондитерские изделия, приготовленные в домашних условиях, сборное непастеризованное молоко, бахчевые культуры в разрезанном виде, а также яйца водоплавающих птиц и куриные яйца, бывшие в инкубаторе, с трещинами, с нарушением целостности оболочки или загрязненные, шкуры зверей без соответствующей маркировки изготовителя, товары, запрещенные к свободному обороту на территории Беларуси. Помимо этого, на рынках (кроме магазинов и торговых объектов Белкоопсоюза) также не разрешается продажа муки, крупы, макаронных и кондитерских изделий, не расфасованных в потребительскую тару их производителями либо юридическими лицами, имеющими сертификат соответствия на расфасовку этих товаров.

В Минторге отметили, что торговля данными товарами на рынках и ранее запрещалась различными нормативными актами. Поэтому при составлении данного перечня товаров учитывались требования законодательства в части ограничения оборота отдельных товаров на территории республики и по защите прав потребителей, а также санитарные нормы.

Продажа сахара и пиротехнических изделий на рынках разрешена только в расположенных на их территории магазинах. Это требование относится и к драгоценным металлам и камням, изделиям из них во всех видах и состояниях, часам в корпусах из драгоценных металлов.

Постановление вступит в силу через три месяца после его официального опубликования.



*На выставке "Жаночае аўта-2003".*

Фота ByMedia.net

ЧУЛІ?

## Штрафы на польскіх дарогах: колькі і за што?

*У Польшчы зменшыліся памеры грашовых пакаранняў за парушэнні правілаў дарожнага руху і змяніўся прынцып іх спагнання. Паліцыя заяўляе, што ў час надыходзячых святаў кантроль за рухам аўтамабіляў будзе ўзмоцнены, таму шматлікім беларусам, якія едуць у гэтыя дні ў суседнюю краіну, варта ведаць, што іх чакае на польскіх дарогах.*

Дагэтуль у Польшчы быў вызначаны мінімальны і максімальны памер грашовага пакарання за кожнае парушэнне, і вадзіцель мог у кожным канкрэтным выпадку дыскутаваць з паліцыянтам аб памеры штрафу. Цяпер за парушэнні правілаў дарожнага руху трэба будзе плаціць менш, але дакладна вызначаную суму, без магчымасці перамоваў.

Напрыклад, калі раней за язду без зашпіленых паясоў бяспекі максімальны памер штрафу быў прыкладна 40 долараў, то цяпер — каля 25. Абгон у забароненых месцах будзе каштаваць вадзіцелю 50 долараў (было — 125), а за размову праз мабільны тэлефон у часе руху трэба будзе заплаціць 50 долараў.

Ёсць, аднак, адзіны выпадак, у якім пра памер штрафу можна будзе спрачацца. Вось што сказаў супрацоўнік дарожнай паліцыі ў Варшаве Мацей Яворскі:

— Дыскутаваць можна будзе ў выпадку перавышэння хуткасці. Тут памер штрафу складае ад 50 злотых (каля 13 долараў) да 500 злотых (каля 130 долараў) і існуе магчымасць featuring розшага падыходу да вадзіцеля. Важна, напрыклад, ці раскайваецца парушальнік у тым, што ён зрабіў".

Паводле яго слоў, перад тым як паліцыянт выпіша штраф за перавышэнне хуткасці, ён мусіць узяць пад увагу ўзровень небяспекі, якую стварыў сваімі дзеяннямі вадзіцель, ці быў ён пакараны раней, узровень заробку кіроўцы, а таксама паводзіны ў час затрымання.

Новая сістэма штрафаў мусіць дапамагчы зменшыць узровень карупцыі сярод паліцыянтаў. Даследаванні паказваюць, што 15% палякаў прынамсі адзін раз у жыцці давалі паліцыянтам хабар.

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ.**

*Варшава.*

*Радыё "Свабода".*

## Мгновенная лотерея

Минский облисполком учредил местную постоянно действующую мгновенную денежно-вещевую лотерею.

Инструкция о порядке ее проведения утверждена решением Миноблисполкома от 12 ноября 2003 г. № 851. Постоянного названия лотерее не присваивается, оно будет меняться в зависимости от места и времени проведения и праздничных дат. Лотерея будет проводиться с 15 декабря 2003 года по 15 декабря 2006 года. Ее организатором назначено РУП "Белорусские лотереи".

В Инструкции также говорится, что лотерея выпускается сериями. Каждая серия может иметь свое название и игру. Наименование серий, в которых разыгрываются только денежные выигрыши, состоит из букв "М" и "Д" (первые буквы слов "Мгновенная", "Денежная") и порядкового номера серии (МД-1, МД-2 и так далее). Наименование серий, в которых разыгрываются денежные и вещевые выигрыши, состоят из букв "М", "Д", "В" (первые буквы слов "Мгновенная", "Денежная", "Вещевая") и порядкового номера серии (МДВ-1, МДВ-2 и так далее).

Лотерейные билеты будут продаваться населению за наличный и безналичный расчет

расчетными билетами Национального банка Республики Беларусь при строгом соблюдении принципа добровольности.

**Информационное агентство Владимира ГРЕВЦОВА.**

ЗАДУМАЕМСЯ!

## Якая ў нас пенсія?

71 працэнт мінімальнага спажывецкага бюджэту пенсіянера склаў у лістападзе сярэдні памер пенсіі, паведамляе Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі.

У кастрычніку гэтыя суадносіны складалі 72 працэнты, у верасні — 73, у жніўні — 74 (самы высокі сёлетні паказчык), у лістападзе 2002 года — 73, а ў лютым 2002 года — 81.

Сярэдні памер пенсіі ў лістападзе 2003 года быў роўны 113.947 рублям (53,4 долара ЗША, або 45,3 еўра ў пераліку па афіцыйным курсе на 15 лістапада). Пры гэтым сярэдні памер пенсіі па ўзросце склаў 119 тыс. рублёў, па інваліднасці — 106 тыс., у сувязі са стратай кармільца — 73,7 тыс., сацыяльнай пенсіі — 51,7 тыс.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Сколько зарабатываем мы и наши соседи?

**Страна и средний месячный заработок в долларах**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Беларусь | 130 | Чехия | 400 |
| Латвия | 240 | Польша | 460 |
| Литва | 270 | | |

ЧИТАЯ НАЦИОНАЛЬНЫЙ ОТЧЕТ...

# Поднимите рейтинг

*Среди 18 европейских стран по уровню конкурентоспособности Беларусь занимает предпоследнее место*

Из множества экономических задач, стоящих перед нами, какие основные? С чего начинать реформы? Где те звенья, ухватившись за которые, можно обеспечить реализацию коренных национальных интересов страны?

"Как показывают исследования, главная проблема белорусской экономики состоит в необходимости повышения ее конкурентоспособности", — читаем в Национальном отчете о человеческом развитии страны в 2003 году "Человеческий потенциал Беларуси: экономические вызовы и социальные ответы".

Почему именно эта проблема главная? Потому, что наша экономика построена на принципе "сборочного цеха" бывшего СССР. То есть ее продукция предназначена на вывоз и продажу за пределами. Специалисты подсчитали, что белорусы выпускают продукции, предназначенной для сбыта на внешних рынках в 3 раза больше, чем это делают другие страны. А коль так, то будьте добры постоянно заботиться о качестве своих изделий.

Между тем сегодня только 4% технологических процессов в промышленности страны соответствуют мировому уровню, 79% — это традиционный технологический уклад, 18% — технологии реликтового уровня, большинству из которых свыше 15 лет. И как результат, чрезвычайно низкая доля новой и научно-технической продукции. За последние 5 лет эта доля сократилась еще в 1,5 раза.

Приводя эти цифры, авторы отчета подчеркивают, что сейчас доля высокотехнологичной продукции в объеме белорусского экспорта составляет всего 4%, что в 8 раз меньше, чем в США, и в 3 — чем в России.

**Рейтинг стран по сводному индексу уровня конкурентоспособности**

| Страны | сводный индекс | место среди 18 стран |
|---|---|---|
| Австрия | 1.0 | 3 |
| Беларусь | 0.564 | 17 |
| Россия | 0.678 | 10 |
| Украина | 0.620 | 14 |
| Казахстан | 0.636 | 12 |
| Литва | 0.572 | 16 |
| Латвия | 0.594 | 15 |
| Эстония | 0.854 | 6 |
| Германия | 0.950 | 4 |
| Франция | 0.867 | 5 |
| Италия | 0.737 | 9 |
| Нидерланды | 1.145 | 1 |
| Швеция | 1.051 | 2 |
| Польша | 0.633 | 13 |
| Словакия | 0.759 | 7 |
| Болгария | 0.531 | 18 |
| Венгрия | 0.674 | 11 |

*Как видим, наша страна среди своих ближайших европейских соседей на предпоследнем месте по уровню конкурентоспособности.*

Ну и что же делать в такой ситуации? Авторы отчета предлагают максимально использовать собственные резервы и преимущества, которые пока сохраняются. На это должны быть направлены реформы. Главными причинами, которые сдерживают реализацию конкурентных преимуществ, названы такие:

Низкая активность процессов разгосударствления и приватизации как основы для роста инвестиций и использования предпринимательской энергии.

Наличие административных барьеров на пути развития предпринимательства и высокий уровень административного вмешательства органов государственного управления в деятельность предприятий.

Недостаточно благоприятный инвестиционный климат, создающий риски как для отечественных, так и для зарубежных инвесторов.

Высокое налоговое давление на производителей, негативно воздействующее на расширенное производство.

Невысокая макроэкономическая и финансовая стабильность, характеризующаяся еще достаточно значительным уровнем инфляции.

Неразвитость финансового рынка, невысокая устойчивость и безопасность банковской системы, низкая ее кредитная возможность.

Устранение этих причин, считают авторы отчета, повысит конкурентоспособность страны не только в сфере производства и реализации товаров и услуг, но и в борьбе за привлечение инвестиций в экономику страны.

С этим нельзя не согласиться.

Возьмем для примера приватизацию — наиболее понятное явление для многих слоев граждан.

Итак, почему надо ускорить приватизацию? В Национальном отчете дается простой и ясный ответ: "Как показал опыт Центральной и Восточной Европы, те страны достигли небольших успехов в привлечении иностранных инвестиций и повышении благосостояния своего народа, которые активно проводили процесс приватизации".

У нас же в этом направлении и раньше, как говорится, конь не валялся, а в последние годы процесс вообще замедлился. Очевидно, напугали итоги приватизации в России, которую многие называют дикой. Однако от нее, от приватизации, нынче никуда не денешься, и она все острее встает перед страной. Основные средства экономики, ввиду низкого коэффициента их обновления, продолжают быстро изнашиваться, на традиционных рынках сбыта белорусских товаров активно наступают производители других стран.

Значит, работать по старинке уже нельзя. Важно не упустить последний шанс. Он — в том, что Беларусь, по мнению специалистов, пока имеет перспективу выгодной приватизации. Значительное число предприятий в основном сохранили свои позиции на рынках стран СНГ, на них остался костяк высококвалифицированных кадров, способных решать сложные современные задачи. Такими предприятиями могут заинтересоваться стратегические инвесторы, а приход их капиталов и высоких технологий может в корне изменить производство и резко повысить конкурентоспособность белорусской продукции. Как следствие рост прибылей и благосостояния граждан.

"Не менее важным для решения проблем социального и экономического развития Беларуси, — читаем в Национальном отчете, — является обеспечение сдвигов в формировании конкурентоспособного предпринимательского сектора экономики". Поставим все тот же вопрос: "Почему?" И ответ на него тот же: потому что в этом убеждает мировой опыт. Во всех ведущих странах он играет важнейшую роль. А для Беларуси он, малый и средний бизнес, особенно необходим, так как, по мнению авторов отчета, поможет решить ряд проблем. В частности, таких, как "более полное использование человеческого капитала — основного элемента национального богатства, повышение гибкости экономики в условиях постоянно меняющегося спроса; вовлечение в производство ресурсов, использование которых неэффективно для крупных производств; создание конкурентной среды, противодействие монополии крупных образований, насыщение рынка товарами" и т.д.

Следует особо отметить социальные функции малого и среднего бизнеса. Крупные предприятия в целях поддержания своей конкурентоспособности вынуждены будут сокращать численность работающих. По прикидкам специалистов, излишки рабочей силы на предприятиях составляют примерно 15 процентов. Процесс сокращения, как говорится, уже пошел. Куда деваться тем, кто лишился работы? Их трудоустроить можно в малом и среднем бизнесе, если он, конечно, сможет активно развиваться. Таким образом, он, кроме всего прочего, создаст социальную устойчивость в обществе, обеспечит формирование среднего класса страны — основы ее стабильного развития.

К сожалению, его становление у нас происходит с большими сложностями и поэтому значительно отстает от темпов других стран. Так, в Беларуси на тысячу жителей приходится только 3 малых предприятия. В странах Европейского Союза их примерно 45. В ведущих странах на малых и средних предприятиях производится 50—60, а то и более процентов валового внутреннего продукта. В нашей стране субъекты малого предпринимательства создают лишь около 7 процентов валового внутреннего продукта и дают в казну государства более 12 процентов от всех налоговых поступлений.

Что же мешает у нас малому бизнесу?

Нестабильность и незавершенность нормативно-правовой базы предпринимательства.

Значительное число и сложность административных барьеров (регистрация, лицензирование, сертификация и т.д.)

Высокий уровень налогообложения, сложность налоговой системы и множественность сборов, частые изменения в финансовой отчетности, высокие социальные отчисления.

Частые проверки различных контролирующих организаций.

Слабость системы финансовой поддержки малого и среднего бизнеса и сложность получения кредитов.

Недостаточное развитие инфраструктуры и низкий платежеспособный спрос.

Вот такие причины видят авторы отчета.

Словом, почти то же давит малый бизнес, что и крупные предприятия. А при таком давлении уже не до рейтинга по конкурентоспособности, хотя бы выжить.

У любого человека, ознакомившегося с такими многочисленными преградами на пути развития нашей экономики, наверное, возникнет мысль: "Да сломать эти барьеры в один миг, коль так мешают?" А заодно некоторые подумают: "Почему же их не ломают?"

Отвечаю. А чем тогда будут заниматься тысячи чиновников, если все эти барьеры снять? Вы думаете, они охотно уступят свои теплые и хлебные места, ради какого-то там рейтинга? Не дождетесь.

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

## Рамонт і будаўніцтва дарог. Дзе і калі?

*Чакаецца, што ў 2004 годзе з рэспубліканскага дарожнага фонду непасрэдна на дарожныя работы будзе накіравана каля 486 млрд. рублёў, або каля 75 працэнтаў ад яго агульнага аб'ёму. Гэта прадугледжана праектам праграмы дарожных работ на будучы год, якая разгледжана ў дэпартаменце "Белаўтадар".*

У будучым годзе будзе праводзіцца рэканструкцыя і капітальны рамонт найбольш напружаных участкаў дарог, будаўніцтва абходаў гарадоў (гэта больш за палову сродкаў ад агульнага аб'ёму на будаўніцтва і капітальны рамонт), а таксама прывядзенне ў належны стан рэспубліканскіх дарог у 50-кіламетровай зоне вакол Мінска. Нязменнымі застануцца і прыярытэты ў галіне паляпшэння ўтрымання дарог, падтрымання іх стандартаў і бяспекі руху, а таксама паляпшэнне стану мастоў і тэхніка-эксплуатацыйных паказчыкаў дарог і мастоў на падставе даных дыягностыкі.

Сярод аб'ектаў будаўніцтва і рэканструкцыі будучага года значацца 30 аб'ектаў (10 з іх — пераходныя), сярод якіх участкі дарог M1/E30 (Брэст—Мінск—мяжа Расіі), М-3 (Мінск—Віцебск), Р-20 (Віцебск—Полацк), М-4 (Мінск—Магілёў), Р-28 (Мінск—Маладзечна—Нарач), другая чарга аб'езду Гродна, аб'езды Клімавічаў, Слоніма, Магілёва, мост праз Заходні Буг на беларуска-польскай дзяржаўнай мяжы.

Пры гэтым з 30 аб'ектаў будаўніцтва і рэканструкцыі на сённяшні дзень ужо па 12 аб'ектах ёсць зацверджаная праектна-каштарысная дакументацыя, дакументацыя яшчэ па трох аб'ектах знаходзіцца на экспертызе, па астатніх — у стадыі распрацоўкі.

Капітальны рамонт у будучым годзе закране больш за 170 км дарог і каля тысячы пагонных метраў мастоў. Сярэднім рамонтам плануецца адрамантаваць каля паўтары тысячы кіламетраў дарог і звыш 3 тысяч пагонных метраў мастоў.

**Аляксей АРЭШКА.**

